На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№ 228 (1292)

Чацвер, 6 снежня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, у асобных раёнах слабы снег, на дарогах галалёд. Вецер усходні, 3—8 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве, Гомелі — -6...-8, Мінску, Гродне — -5...-7, Брэсце — -4...-6.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць. У паўднёва-ўсходніх раёнах невялікі снег. Вецер усходні, 3—8 м/с. Тэмпература паветра ўначы — -9...-14, месцамі да -17; удзень — -4...-9.



**ПУЛЬС**

## Урад мае намер "адпусціць" цэны на харчаванне

**Урад мае намер да вясны 2002 года "адпусціць" цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю. Пра гэта 4 снежня, прадстаўляючы дэпутатам Палаты прадстаўнікоў праект праграмы дзейнасці ўрада, паведаміў прэм'ер-міністр краіны Генадзь Навіцкі.**

"Пакуль мы будзем мецъ жорсткае рэгуляванне цэн у сельскай гаспадарцы, усё астатняе амаль страчвае сэнс", — заявіў прэм'ер. Як ён лічыць, урад "нарэшце, знайшоў тыя формы і падыходы", якія дазволяць ажыццявіць рэальнае рэфармаванне АПК. У выніку рэфармавання ў сельскай гаспадарцы павінна захавацца буйнатаварная вытворчасць. Аднак знаходзіцца яна будзе ў руках розных уласнікаў — ад калектыўных да прыватных.

Апрача таго, урад мае намер вызвабаніць АПК ад "неўласцівай нагрузкі", звязанай з інфраструктурай і камунальнай гаспадаркай, а таксама правесці рэструктурызацыю даўгоў гэтай галіны. Яны цяпер складаюць больш за 1 трыльён рублёў.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Праверка пільнасці беларусаў

**У адным з цэхаў рэспубліканскага прадпрыемства "Хімвалакно" ў Светлагорску быў знойдзены муляж выбуховага прыстасавання. Яго знайшлі работнікі цэха пад цыстэрнай з аміякам.**

Поліэтыленавы пакет, у якім ляжаў прадмет прамавугольнай формы, рабочыя прынеслі ў адзін з пакояў персанала і толькі потым, спалохаўшыся, здагадаліся выклікаць сапёраў. Была праведзена эвакуацыя людзей. Але спецыялісты, праверыўшы змесціва пакета, устанавілі, што ніякай небяспекі ён не ўяўляў.

Як патлумачылі БелаПАН у прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама, з 3 снежня ў краіне праводзяцца спецыяльныя вучэнні па папярэджанні тэрарыстычных актаў. Магчыма, знаходка ў Светлагорску — першая праверка пільнасці жыхароў рэгіёна. Аналагічнае меркаванне БелаПАН выказалі і ў прэс-службе Упраўлення КДБ па Гомельскай вобласці.

**Ірына ШАНЦАВА.**

## З 13 па 17 снежня ў Беларусі Дні культуры Расіі

**Прадстаўнічая дэлегацыя вядучых майстроў мастацтваў Расіі ў колькасці каля 350 чалавек выступіць з канцэртамі перад гледачамі Мінска, Мінскай вобласці, Брэста і Баранавіч.**

Узначаліць дэлегацыю расійскіх дзеячаў культуры міністр культуры Расіі Міхаіл Швыдкой. У складзе дэлегацыі — міністр культуры Рэспублікі Карэлія Таццяна Калашнік, народны артыст СССР, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага Малога тэатра Расіі Юрый Саломін і іншыя.

Дні культуры Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь адкрыюцца канцэртам Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага сімфанічнага аркестра імя П.І.Чайкоўскага пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Уладзіміра Федасеева і Маскоўскага дзяржаўнага акадэмічнага камернага хору пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Уладзіміра Мініна ў канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

У рамках Дзён культуры таксама пройдуць выступленні Дзяржаўнага акадэмічнага кубанскага казачага хору, скрыпача Максіма Фядотава, творчыя сустрэчы з народным артыстам СССР Юрыем Саломіным, народным артыстам Расіі Аляксеем Пятрэнкам, майстар-клас народнага артыста СССР Уладзіміра Мініна. На сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь будзе паказаны спектакль "Яўген Анегін", а ў памяшканні Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра — спектаклі Малога тэатра Расіі "Лес", "Ваўкі і авечкі".

Падчас правядзення Дзён культуры ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі будуць экспанавацца выстава са збору музеяў "Рускае мастацтва XVIII—XX стагоддзяў", выстава бурштыну і іншыя.

У Саюзе беларускіх пісьменнікаў мяркуецца правядзенне "круглага стала" з удзелам беларускіх і расійскіх майстроў слова, у прыватнасці, Рымы Казаковай, Андрэя Дзяменцьева, Ігара Шклярэўскага.

**Маша ПЯТРОВА.**

## У кітайскім судзе разглядаюць беларускую скаргу

**Пекінскі пасрэдніцкі народны суд № 2 разглядае зварот, які паступіў з Вышэйшага Гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь.**

У адпаведнасці з рашэннем Вышэйшага Гаспадарчага суда Беларусі, якое было прынята яшчэ ў 1999 годзе, Кітайская машынабудаўнічая кампанія павінна выплаціць кампенсацыю Мінскаму заводу аўтаматычных ліній у памеры 210 тысяч долараў ЗША за нявыкананы кантракт, а таксама заплаціць судовыя выдаткі ў суме 756 долараў 92 цэнты.

Для разгляду справы ў пекінскім судзе створаны спецыяльны калегіяльны орган. "Калі кітайскія законы не парушаны і інтарэсы нашай краіны не закрануты, мы вынесем рашэнне ў адпаведнасці з ужо прынятай пастановай і запатрабуем выплаты кампенсацыі", — сказаў Ян Сяоюн, кіраўнік эканамічнага суда пры Пекінскім пасрэдніцкім народным судзе № 2.

Зварот беларускага суда прыняты да разгляду ў рамках двухбаковага Дагавора аб аказанні юрыдычнай дапамогі, заключанага ў 1993 годзе. Упершыню ў Кітаі мясцовы суд прыняў да разгляду справу, па якой вынесена рашэнне судом іншай дзяржавы.

**Вадзім КРАСНАГОРЦАЎ.**

## ХОТИМ ЗНАТЬ ПРАВДУ

АНАТОЛИЙ МАЙСЕНЯ — ГЕННАДИЙ КАРПЕНКО — ЮРИЙ ЗАХАРЕНКО — ВИКТОР ГОНЧАР — АНАТОЛИЙ КРАСОВСКИЙ — ДМИТРИЙ ЗАВАДСКИЙ — АНДРЕЙ КЛИМОВ — ?

## ЖИВАЯ ЦЕПЬ НЕРАВНОДУШНЫХ ЛЮДЕЙ

В Витебске, Гомеле, Гродно, Могилеве, Бресте, Солигорске, Орше, Барановичах, Кричеве, Молодечно, Жлобине, Рогачеве, Пружанах, Жабинке, Клецке, Слуцке...

В Минске от площади Независимости до площади Октябрьской

9 декабря с 15.00 до 16.00

## ВСТАНЬ РЯДОМ!

# СТАНЬ ЗВЕНОМ В ЖИВОЙ ЦЕПИ!

Когда бесследно исчезает человек — это всегда трагедия, прежде всего для его родных и близких. Когда же бесследно исчезает человек известный — это уже не только частная, но и общественно значимая трагедия. Когда же исчезает человек, известный как активный противник правящего в стране режима, трагедия приобретает уже международное звучание. Ибо если есть посреди цивилизованного мира хоть одна страна, где такое возможно, ни один народ не может быть абсолютно уверен, что нечто подобное не случится однажды у него дома.

За последние два с лишним года в нашей Беларуси исчезли — точнее были насильственно похищены — экс-министр внутренних дел Юрий Захаренко, вице-спикер Верховного Совета Виктор Гончар, предприниматель Анатолий Красовский и тележурналист Дмитрий Завадский. При этом власти ничего не сделали для раскрытия этих преступлений — наоборот, создается впечатление, что именно ею всякие следы старательно заметаются. А вспомним еще, что непосредственно перед первым громким похищением при загадочных обстоятельствах ушел из жизни один из лидеров белорусской оппозиции Геннадий Карпенко. Что до сих пор томится за решеткой депутат Андрей Климов — только за то, что посмел открыто противиться произволу узурпировавшего высшую власть бывшего "всенародноизбранного"...

Не чересчур ли для небольшой страны в центре Европы? Не слишком ли похоже на то, как все начиналось семь десятков лет назад в другой центральноевропейской стране — Германии? Там в то время очень многие были уверены, что у них такое невозможно, что лично их это никак не коснется. Мы помним, во что все вылилось и чем закончилось.

"Не спрашивай, по ком звонит колокол. Он звонит по тебе..." Эти слова почти неведомого для нас Джона Донна, ставшие всемирно известными благодаря Эрнесту Хемингуэю, сегодня как никогда актуальны в Беларуси. Если тебе сейчас наплевать на судьбы жертв диктатуры — потом не удивляйся и не обессудь, когда другим будет так же наплевать на судьбу твоего друга, брата, да и на твою собственную! Ты должен именно сейчас поднять свой голос, чтобы он прозвучал в мощном хоре неравнодушных: "Хотим знать правду!". Накануне и после 9 сентября лукашенковские пропагандисты ехидничали: мол, проблема пропавших без вести уже разыграна оппозицией как предвыборная карта и теперь уже никому не интересна. Ложь! На протяжении всей осени в разных регионах страны — в Минске, Могилеве, Витебске, Солигорске — выстраивались "цепи неравнодушных людей" с портретами Захаренко, Гончара, Красовского, Завадского, Карпенко, Климова.

Кампания "Хотим знать правду" продолжается. 9 декабря с 15.00 до 16.00 по всей Беларуси выстроится "цепь неравнодушных людей". Не спрашивай себя, что ты один можешь сделать, — просто приходи и становись звеном этой живой цепи в своем городе или поселке. Не спрашивай, по ком звонит колокол, — он уже звонит и по тебе!

**Пресс-служба ОГП.**
**www.ucpb.org**

# Дзеці хочуць паесці

На адной з прэс-канферэнцый, прысвечанай праблемам дзяцінства, я пачула, што нашы дзеці не галадаюць. Маўляў, мы не бежанцы з краін Афрыкі і зон ваенных канфліктаў. Маўляў, не тыя часы цяпер, няма хлеба з мякінай, і падлеткі не вымушаны рыць прамерзлую вясновую глебу ў пошуках мінулагодніх бульбін.

Але як тады растлумачыць жыццёвую карцінку, якую я нядаўна пабачыла на пераскрыжаванні мінскіх вуліц Сурганава і Коласа? Прыстойна апрануты хлопчык гадоў трынаццаці, папярэдне агледзеўшыся па баках, падабраў з бруднага тратуара недаедзены кімсьці банан, тут жа адарваў скурку і з'еў. Выпадак нетыповы? Не думаю.

Паназірайце, як паводзяць сябе дзеці ў школьных сталоўках і сталоўках аздараўленчых летнікаў. Не бачылі, як ляцяць яны, збіваючы адзін аднаго з ног, да стала і ледзь не б'юцца з-за лішняй цукеркі? Не звярталі ўвагу, як каўтаюць сліну, гледзячы на багатыя прылаўкі магазінаў і шапікі з садавінай? Не расказвалі вам прадаўшчыцы тых самых бананаў, як у канцы працоўнага дня трэцца побач з латком парачка хлапчукоў і, набраўшыся смеласці, просяць пачаставаць?..

У нас галодных дзяцей няма? А як так можа атрымлівацца, калі большасць сем'яў, па дадзеных статыстыкі, мае даход ніжэй пражытачнага мінімуму? Калі кожная маці "выкройвае" на ўласным страўніку "порцыю" мяса для сына ці дачкі і з болем глядзіць, як той абсмоктвае ледзь не да дзірак пальчыкі? Садавіна — па "святах". Шакалад і цукеркі — на Новы год.

Сучасныя дзеці ўжо радзей і радзей адкрыта просяць: "Купі". Яны добра засвоілі, што ў бацькоў маленькія зарплаты, і тыя выплачваюцца несвоечасова. Добра яшчэ, калі ласкавая жанчына толькі ўздыхне: "Пацярпі, дзіцятка, няма пакуль за што купіць". А іншая ж і раззлуецца: "Ды ты ж паеў толькі што!".

У наш час, згадзіцеся, вельмі зручна ведаць прынцыпы рацыянальнага харчавання. Адзін з іх, да прыкладу, сцвярджае: пачуццё сытасці падманнае, таму выходзіць з-за стала трэба з лёгкім пачуццём голаду. Нашы дзеці так і робяць. Толькі іх цяжка пераканаць, што адно яйка забяспечвае сутачную патрэбу ў бялку. Ніякавеюць, калі хтось са сваякоў завохкае: "Апетыт у цябе, хлопча, не па ўзросце! Столькі яек умалоў, як штангіст!".

У асяроддзі, дзе кожны лічыць абавязкам зазірнуць дзіцяці ў рот, ніякая малеча не захоча прызнацца, што хоча есці. Гэта не адпавядае нашым уяўленням пра культуру і выхаванасць! Калі ваш "отпрыск" паведаміць у гасцях, што жадае ўсю патэльню з катлетамі "ўмяць", бацькі лічацца зганьбаванымі. Гэта ж прамы папрок іх бацькоўскаму клопату!

Я ўжо маўчу пра выхаванцаў інтэрнатаў ці іншых дзяржустаноў. Тут ужо папрок — дзяржаве! Таму ўпотай ад усіх у класе мой знаёмы васьмікласнік Рома даядае піражок, якім пагрэбаваў сусед па парце, і пaступова перастае зважаць на крыўдныя мянушкі, на папулярныя жарцікі накшталт "Не ведаю, як цябе завуць, але ну ты і жарэш!", "Ты, пэўна, з галоднага Паволжжа". І падобнае.

А чаму дзеці з дзяцей пасміхаюцца? Бо дарослыя перадалі ім свае ўяўленні, што многа есці — гэта загана. Прызнацца ў такой "негатыўнай" схільнасці — амаль подзвіг. Сапраўды, вялікі апетыт сёння не адпавядае запатрабаванням часу. Дакладней, нашым плоскім кашалькам. Толькі навошта саміх сябе падманваць, што няма ў нас галодных дзяцей? Сытых жа можна пералічыць на пальцах.

**Алена КЛЯШЧОНАК.**

**КОНФЛИКТ**

## Берестовицкие власти вновь обидели христиан

**Третий год "Народная воля" освещает борьбу нескольких десятков верующих Берестовицкого района за реализацию права самостоятельно определять свое отношение к Богу.**

29 ноября Берестовицкий райисполком в очередной раз отказал в регистрации церковной общине, покинувшей лоно РПЦ. На этот раз отказали по бюрократическим основаниям. Но и они высосаны из пальца.

В документе за подписью заместителя председателя исполкома П.Дудько написано, что для регистрации не хватает минимального количественного состава: установленным требованиям якобы соответствуют лишь девять человек из 13, представленных на регистрацию.

Трудно сказать, что видели в момент чтения глаза этого чиновника, но в присланном редакции списке числятся не 13, а 83 фамилии христиан семи населенных пунктов одного сельсовета: Пограничный — 40 человек, Рудовляны — 15, Вороны — 13 человек и т.д.

О какой профессиональной компетенции может свидетельствовать подпись зампреда П.Дудько под таким измышлением: "Заявление гр.Бройко не является документом, подтверждающим наличие юридического адреса религиозной общины, так как в соответствии со ст.272 ГК размещение собственником в принадлежащем ему жилом помещении предприятий, учреждений, организаций и их подразделений допускается только после перевода этих помещений в нежилые".

Чиновник не понимает определения юридического лица. А ведь статья 44 ГК (часть 3) недвусмысленно определяет, что религиозные организации относятся к юридическим лицам, в отношении которых учредители не имеют не только конкретно вещественных, но и имущественных прав вообще (раздел II, в который входит ст. 272, называется "Право собственности и другие вещные права"). А потому отказ в регистрации религиозной общины со ссылкой на статью 272 ГК неправомерен.

Для особо непонятливых Комитет по делам религий и национальностей подготовил и разослал разъяснение, что граждане, при условии соблюдения пожарных и санитарно-гигиенических правил, **могут** предоставлять свой частный дом в качестве юридического адреса религиозной общины.

В комитете, куда "Народная воля" обратилась за разъяснением, тоже очень удивились столь явно неправомерному подходу Берестовицкой вертикали к такой деликатной проблеме, как религиозные чувства граждан, и обещали взять данный вопрос под контроль.

Редакция надеется, что с приходом в комитет нового руководителя Станислава Буко конституционные права граждан на свободу вероисповедания станут в нашем государстве неуклонно соблюдаться.

**Валерий ЩУКИН,**
**правозащитник.**

## "Детские игры" в Березино

Мечеслав Гриб, Александр Беляцкий и другие организаторы независимого наблюдения за президентскими выборами в Беларуси, как теперь выяснилось, сделали большой промах.

Им бы набрать в свои ряды как можно больше подростков. Тогда бы сегодня все абсолютно точно знали подлинные итоги избирательной кампании. Тех читателей, кто в этом сомневается, направляю в райцентр Березино.

Прошлой осенью депутатом Палаты представителей 2-го созыва по Березинскому избирательному округу №76 избрали бывшего заместителя Генерального прокурора Беларуси Петра Иваненко. На этом казалось бы и делу конец. Захотел человек стать депутатом, приложил максимум усилий — задачу выполнил.

Но спустя год на кладбище в райцентре было найдено более сотни бюллетеней той поры, поданных за Петра Ивановича. Чудеса — да и только! Активисты Белорусского Хельсинкского комитета — организации, которая пристально следит за проведением выборов, забили тревогу. Они обратились в Центризбирком с просьбой выяснить, как документы строжайшей отчетности вдруг оказались разбросанными среди могил.

Сотрудники Центризбиркома оперативно провели свое расследование. Выяснилось, что бюллетени в соответствии с законом были отданы для уничтожения в специальное учреждение, однако оттуда часть бумаг "уворовали дети".

Итак, все списали на березинских шалунов. Шустрые, однако, ребята. Вот и думается — коль им такие операции по плечу, то уж с обязанностями независимых наблюдателей они справились бы еще лучше. Впрочем, может, есть смысл попросить "казаков-разбойников" провести всебелорусскую проверку бюллетеней периода президентской кампании?

**Владимир ГЛОД.**

## Новыя начальнікі ў ДАІ

**Загадамі міністра ўнутраных спраў Беларусі генерал-маёра Уладзіміра Навумава прызначаны новыя начальнікі ўпраўленняў Дзяржаўтаінспекцыі ГУУС Мінскага гарвыканкама і УУС Мінскага аблвыканкама.**

Намеснікам начальніка міліцыі грамадскай бяспекі і спецыяльнай міліцыі — начальнікам упраўлення ДАІ ГУУС Мінгарвыканкама прызначаны падпалкоўнік Уладзімір Касоўскі. Намеснікам начальніка міліцыі грамадскай бяспекі і спецыяльнай міліцыі — начальнікам упраўлення ДАІ УУС Мінаблвыканкама прызначаны падпалкоўнік Аляксандр Мендзелеў. Да новага прызначэння У.Касоўскі быў намеснікам начальніка ўпраўлення Дзяржаўтаінспекцыі УУС Мінаблвыканкама, А.Мендзелеў — старшым інспектарам упраўлення ДАІ Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

# Наша перамога наперадзе

**Сёння ўжо відавочна, што прычынай пройгрышу кампаніі-2001 сталі не толькі хібы тэхналогіі і асабістыя якасці палітычных лідэраў. Праблемай беларускіх дэмакратычных сіл вось ужо некалькі гадоў быў і застаецца агульны маральна-псіхалагічны стан. Апатычнасць апазіцыйных структур — гэта ў нейкай ступені сведчанне ўнутранай спустошанасці сённяшняй дэмакратычнай эліты Беларусі. Толькі наша, кажучы па-беларуску, млявасць дазволіла рэжыму без асаблівай напругі "элегантна" перамагчы падчас галасавання на нядаўніх выбарах кіраўніка дзяржавы.**

Павел СЕВЯРЫНЕЦ

### Замест штыка — агульная млявасць

Перадвыбарчая тактычная задума Лукашэнкі, на жаль, ажыццявілася. Кампанія прайшла млява — ціха і пад поўным кантролем "Чырвонага дома". Такое ўражанне, што падзеі адбываліся ў сне — мы прачнуліся 9 верасня, пачулі афіцыйныя лічбы ЦВК і заваліліся дасыпаць.

Найбольш прадбачлівыя апазіцыйныя дзеячы адразу махнулі рукой на вынік і заняліся забеспячэннем бягучых інтарэсаў. Большасць як магла старалася на ўсялякі выпадак фармальна выканаць асноўныя рытуалы замежных сцэнарыяў... Ну, а тыя ідэйныя, хто маладзей, з адчаем выходзілі на вуліцы. Іх праследавалі, збівалі ды забіралі ў пастарунак.

Ні дэмакратычныя партыі, ні былая наменклатура (у асноўным прафсаюзная) не змаглі прапанаваць рэальнай альтэрнатывы Лукашэнку, паказаць усім і кожнаму тую сілу, што зменіць рэжым і пераўтворыць краіну. Не змаглі, бо такой сілы ў іх проста не было. Была слабасць.

Апазіцыя, хоць і позна, але ж вызначыла адзінага кандыдата. Праўда, гэта ўжо не мела значэння: без адпаведнай раскруткі, ідэі і каманды Ганчарык проста застаўся іншым з разраду "Лукашэнка і іншыя". Інакш кажучы, адзіны быў — не было еднасці. Шырокай грамадзянскай кааліцыі не хапала духу сапраўднай салідарнасці, волі і веры.

"Хартыя-97" раскруціла маркетынгавую сетку "зуброў". Але надакучлівая і пустая рэклама на сценах жылых дамоў, двухсэнсоўныя налепкі, тут жа выкарыстаныя "Советской Белоруссией" і бэпээсэмам, агрэсіўная расейшчына вельмі хутка ператварылі навінку ў чарговую імітацыю, якая 9 верасня банальна скончылася. Маладыя людзі, якія паверылі, што Беларусь можна выратаваць капіраваннем сербскіх тэхналогій і расійскамоўнымі "піярамі", былі жорстка расчараваныя напрыканцы кампаніі і асабліва пасля яе, многія з іх прыйшлі ў Малады фронт.

*Павел Севярынец (злева) часта сустракаецца з міліцыяй.*
**Фота IREX/ProMedia.**

Сказаць шчыра, не хапіла сіл і маладафронтаўцам. Мабілізацыйная кампанія "Выбірай!" з большага ўдалася, і моладзь на выбары выйшла. А вось магчымасць масавых вулічных выступленняў была задушана яшчэ ўвесну-ўлетку. Тады каля 650 маладафронтаўцаў па ўсёй краіне былі затрыманы, арыштаваны, збіты ці выкліканы на кадэбэшныя допыты.

Асобныя ўчынкі герояў 2001 года — Андрэя Капорыкава, які з воклічам "Хай дапаможа нам Бог!" узняў бел-чырвона-белы сцяг на "Славянскім базары", шэраговых актывістаў апазіцыі ў рэгіёнах, якія вытрымалі асноўны ўдар вертыкалі і сілавікоў, або сваякоў зніклых, якія пачалі выходзіць на плошчу з пікетамі, змяніць агульнай карціны не маглі.

Агульная млявасць — вось што было ў дэмакратычнай апазіцыі падчас выбарчай кампаніі. А штыка, на жаль, не знайшлося.

### Не хавацца, а дзейнічаць

Калі 9—10 верасня беларуская апазіцыя выйшла на Кастрычніцкую плошчу, яна ўбачыла ўласную ніякавасць. Некалькі тысяч разгубленых маладых людзей, спустошаныя правадыры, расчараваныя журналісты і натоўпы дэбэшнікаў — так выглядалі руіны спадзяванняў апазіцыі на перамогу. Ніякай перамогі "па-заходняму", па тэхналогіі, або "проста так" не было і быць не магло. Стан грамадства як быў дэпрэсіўны, зняверaны, так і застаўся. Справа не ў тым, што мы страцілі веру пасля выбараў. Давайце шчыра прызнаемся: у апазіцыі проста не было цвёрдасці ў адстойванні сваіх пазіцый.

Маральны настрой дэмакратычных сіл выявіў усю глыбіню і разбуральнасць духоўнай млявасці. Ні страшная трагедыя ў Амерыцы, ні інаугурацыя дыктатара, ні разбурэнне Курапатаў не выклікалі ў яе асаблівай рэакцыі. Толькі асобныя дзеячы, якіх падчас кампаніі-2001 захапіў сам працэс, ужо пачынаюць хутчэй рыхтавацца да наступных выбараў у "парламент саюза Расіі і Беларусі", у мясцовыя Саветы ды кудысьці яшчэ, абвяшчаць новыя рухі і партыі.

Своеасаблівай рэакцыяй на паражэнне 9 верасня стала ўзмацненне "эміграцыйных" настрояў. Прычым эміграцыю яўную (ад'езд за мяжу) замяніла эміграцыя ўнутраная — замкнёнасць, імкненне да ізаляванага жыцця, поўнае ігнараванне рэжыму. Адзін знаёмы рэжысёр праз тыдзень пасля выбараў нават прынёс мне распрацаваную канцэпцыю супраціўлення шляхам няўдзелу.

Але калі мы хочам нешта змяніць — трэба дзейнічаць!

Сёння беларускаму грамадству, каб канчаткова не задыхнуцца ў абдымках шклоўскага вурдалака, патрэбна дзейснае супраціўленне антызаконным дзеянням з боку каго б яны ні зыходзілі. Адразу пасля выбараў рэжым пачаў шырокамаштабную зачыстку. Пакуль палітычныя партыі ў разгубленасці, пакуль інтэлігенцыя сядзіць па сваіх норах, а расчараваная моладзь надзявае навушнікі, каб нічога не чуць, і сыходзіць у кіно, каб нічога не бачыць, пачынаецца знішчальнае наступленне на ўсё, што ёсць небяспечнага для дыктатуры. Хроніка падзей апошняга месяца ўжо нагадвае перадсмяротны сціхаючы пульс: звальняюць актыўных выкладчыкаў, выключаюць студэнтаў, забараняюць друкаваць "Пагоню", пад пагрозай закрыцця іншыя газеты, былога "слесара-сантэхніка" прызначаюць кіраўніком Акадэміі навук, працягваюцца допыты і суды над праціўнікамі рэжыму, беларускія вытворчыя гіганты распрадаюцца расійскім алігархам. У такіх умовах кожная нацыянальная арганізацыя, сіла, кожная нацыянальна свядомая асоба павінны выбіраць: або паціху канаць, або змагацца.

### Фронт рэальнага супраціўлення

І фронт рэальнага змагання ўжо фарміруецца. Сёння маладыя людзі прымаюць на сябе ролю адкрытай, дэманстратыўнай апазіцыі рэжыму. Яшчэ падчас мінулай прэзідэнцкай кампаніі на вуліцах штодня адбываліся акцыі Маладога фронту, "Зубры" пісалі на сценах, моладзь паўсюдна расклейвала яркія "антылукашэнкаўскія" налепкі. Асноўная частка распаўсюджвання незалежных газет і ўлётак таксама ішла праз маладзёжныя арганізацыі.

На выбары-2001 моладзь выйшла небывала масава. Калі на ўчастках у 1994-м, 1996-м ці 2000-м гадах галасавала ўсяго ад 10 да 40% моладзі, дык 9 верасня — беспрэцэдэнтныя 75%. Адзін мільён дзвесце тысяч маладых выбаршчыкаў, якія прыйшлі на выбары, амаль усе прагаласавалі супраць рэжыму. На жаль, сіл аднаго толькі новага пакалення аказалася недастаткова, каб зваліць Лукашэнку. І тым не менш ён зразумеў, што ў яго проста няма будучыні.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

Народная Воля
6 СНЕЖНЯ 2001 г.

РЭГІЁН

## Жанчыну загрызла свіння

Проста ў шоку былі жыхары вёскі Лядзенкі, што ў Віцебскім раёне, калі даведаліся, што іх 70-гадовую зямлячку надвячоркам загрызла ў хляве гадавалая свіння. Загінуўшую знайшлі на падлозе са шматлікімі рванымі ранамі на целе і твары, атрыманымі, верагодна, ад раззлаванай жывёліны, якой спазніліся даць есці. Дарэчы, гэта не першы падобны факт гібелі людзей ад жыўнасці на падворку ад раз'юшаных кабаноў, быкоў, а летась у Верхнядзвінскім раёне старую забіў баран.

## Страусы на ферме

У ваколіцах вядомага ў краіне калгаса імя Суворава Пастаўскага раёна цяпер актыўна абмяркоўваюць з'яўленне ў гаспадарцы дзіўных птушак-страусаў. У штатным раскладзе з'явіўся тым часам першы страусавод Аляксандр Касцюк, пад наглядам якога больш як пяцідзесят дарослых і маладых птушак-прыгажуноў. Даглядаць іх — справа нялёгкая, але цікавая і прыбытковая. Тут падлічылі, што за адзін год страус вырастае да 120 кілаграм, а за яго мяса можна выручыць каля 600 доларaў. Такой выручкі і за два гады напружанага догляду могуць не даць два ўкормленых бычкі. Паколькі ў старшыні-наватара Алега Валадзько цесныя сувязі з замежнымі партнёрамі калгаса, вырашана пабудаваць па бельгійскім праекце дзве спецыялізаваныя фермы па гадоўлі страусаў на дзве тысячы галоў.

## Адключылі электрычнасць

Пасля таго як даўгі толькі за электрычнасць Глыбоцкага камбікормавага завода перавысілі 280 мільёнаў рублёў, прадпрыемства адключылі ад сілкавання, пакінуўшы толькі агрэгаты для сушкі зерня. Наяўных грошай міжраённае аддзяленне Энерганагляду ўсё роўна не дачакалася, хоць вексель на 50 мільёнаў неўзабаве атрымала. Сітуацыя з аплатай за электрычнасць у рэгіёне настолькі пагоршылася, што кожны дзень прыходзіцца адключаць па 6—7 суб'ектаў гаспадарання. Але верагоднасць вяртання 20,2 мільярда рублёў вельмі нізкая, асабліва з боку сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і арганізацый. Своечасова і ў тэрмін разлічваюцца толькі лічаныя калектывы, а ўжо 139 калгасаў і саўгасаў запазычылі кожны больш як па 70 мільёнаў рублёў. Але разлічвацца ніхто не спяшаецца, хоць вяскоўцам абрэзалі не толькі канторы, але і запраўчныя пункты, вытворчыя цэхі і майстэрні, пакінуўшы толькі з электрычнасцю фермы.

## Дрэнная кудзеля

Не спраўдзіліся надзеі і ў бягучым годзе атрымаць на перапрацоўку якасную сыравіну для калектыва Міёрскага льнозавода. Толькі трэцяя частка прынятай трасты, а гэта ўсяго 474 тоны нумарам 1 і вышэй, больш-менш задаволіла вытворцаў. Здалі яе пераважна два калгасы "Маладая гвардыя" і "Баявы партызан", якія могуць разлічваць на атрыманне грошай. Астатнія гаспадаркі, па-сутнасці, мучыліся ў полі дарэмна, бо іх дрэнную трасту прынялі толькі на адказнае захоўванне з перанясеннем аплаты на нявызначаны тэрмін. Ды і з дрэннага валакна цяжка атрымаць каштоўны прадукт. Таму далейшыя перспектывы ў льнозавода незайздросныя, які разам з іншымі ўжо недапералічыў толькі ў мясцовы бюджэт 480 мільёнаў рублёў падаткаў, што прывяло да затрымак выплат заробкаў настаўнікам, урачам і іншым работнікам бюджэтнай сферы.

**Уладзімір ШЫК.**

# Наша перамога наперадзе

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Паспяховымі сталі кампаніі "Выбірай!" і "Горад — наш!". Мабілізацыйныя "выбірайкі" — яркія, эфектныя, беларускія аказаліся папулярнымі і, бадай, упершыню далі ўсяму грамадству ўяўленне пра сучасную, еўрапейскага ўзроўню беларушчыну. А маладафронтаўскія сцягі, якія з'яўляліся на галоўных гарадскіх дахах і па-над адміністратыўнымі будынкамі, бел-чырвона-белыя ўлёткі, якімі заклейвалі цэлыя кварталы, і вернісажы беларускіх графіці вывелі дэвіз канца 90-х — "Горад — наш!" на ўзровень новага нацыянальнага лозунга. Горад, у якім жыве асноўная маса дэмакратычных выбаршчыкаў і абсалютная большасць моладзі, пачаў усведамляць сябе "нашым" — сапраўдным эпіцэнтрам нацыянальнага руху.

Інакш кажучы, сёння скрозь правалы кампаніі-2001 ужо паўстае вобраз новага супраціўлення, што ўтварае моладзь, якая змагаецца за нацыянальную ідэю. У нас ёсць падставы сцвярджаць, што ў бліжэйшыя гады беларускае супраціўленне будзе маладым і абавязкова нацыянальным.

Стаўка на так званыя "пратэстныя настроі", "негатыў" і "сацыяльныя пытанні" падчас перадвыбарнай кампаніі была загадзя пройгрышнай. Яшчэ падзеі 1996 года паказалі, што нацыянальна свядомы актыў змагаецца не супраць Лукашэнкі, а за Беларусь.

Тактыка маладзёжнага супраціўлення на бліжэйшыя гады павінна заключацца ў шматлікіх хуткіх, цікаўных, лакальных акцыях і як вынік — хаця б маленькая, але перамога. Напрыклад, адстаяць перад адміністрацыяй навучальнай установы студэнта, якога яна праследуе за ўдзел у акцыях пратэсту. Пахіснуць свядомасць саўка. Узорна "апрацаваць" інфармацыяй квартал, "раскруціць" асобную ідэю сярод сваіх сяброў.

Увогуле, супраціўленне павінна адбывацца кожную секунду. Калі ты вольна і ўголас размаўляеш па-беларуску, і гэта чуюць усе. Калі праходзіш па вуліцы з бел-чырвона-белым значком на грудзях. Калі падбадзёрваеш знаёмага — проста з пачуцця нацыянальнай салідарнасці.

Мы зробім нашу інтэлектуальную партызанку такой маланкавай, што рэжым заўсёды будзе спазняцца з адказам. Мы здзейснім цэлыя серыялы з імгненных акцый. Гэта будуць, так бы мовіць, хіты ды кліпы нацыянальнай ідэі, якія дадуць эфект вулічнай "Зарніцы".

І ўрэшце, наша супраціўленне будзе адкрытым, выклікoвым, пазбаўленым нянавісці і гвалту. Бо з намі вера, свабода і праўда, якія перамагаюць любое зло.

### Абапіраючыся на хрысціянства

Агульны дух яднае мільёны, сіла духу пераадольвае страх, апатыю ды ўвогуле ўсё на свеце. Першасны менавіта дух, а не матэрыя (структура, зброя ці грошы).

Такім чынам, для перамогі над існуючым рэжымам, над дэпрэсіяй, жабрацтвам і жахлівай правінцыйнай залежнасцю Беларусі *патрэбна новая апазіцыя.* Маладая, заснаваная на нацыянальных каштоўнасцях. І самае галоўнае — гэта павінна быць апазіцыя духу.

Цяперашняя пратэстная апазіцыя асуджана на вечны правал — бо яна не стварае, а разбурае (у тым ліку і сама сябе). Большасць палітычных партый і грамадскіх рухаў на сённяшні момант не могуць арганізаваць ніякага супраціўлення, і любыя іх кампаніі, камбінацыі ці кааліцыі — бессэнсоўныя, бо яны не могуць перамагчы. На працягу бліжэйшых 1,5—2 гадоў многія з іх або перажывуць унутраную трансфармацыю, або канчаткова маргіналізуюцца.

А ядро новай апазіцыі павінны скласці дынамічныя, дзейсныя супольнасці — нацыянальныя па характары і з магутным духоўным зарадам, здольным узняць увесь народ. Асноўная сіла схаванага супраціўлення ўжо сёння канцэнтруецца ў такіх патрыятычна-хрысціянскіх цэнтрах, асяроддзях і рухах. Наперад Беларусь павядуць новыя правадыры, якія ўжо сёння становяцца лідэрамі думак.

З пачаткам III тысячагоддзя ад Нараджэння Хрыстова беларускаму народу сапраўды патрэбна шмат чаго пачынаць спачатку. Беларусь чакае новая рэфармацыя, новы (сутнасна хрысціянскі) уздым, з якім пачнуцца рэвалюцыйныя перамены ў палітыцы, эканоміцы, сацыяльнай сферы. Не выпадкова сённяшняя сітуацыя нагадвае прадвесце: імкліва растуць хрысціянскія абшчыны, вернікі палітызуюцца і беларусізуюцца, у Беларусі колькасць веруючых у Бога ўжо фактычна перавысіла колькасць няверуючых.

Нацыянальная ідэя, якая сёння можа падняць усё грамадства, вызваліць творчыя сілы 10-мільённага народа, яна заключаецца ў духоўным абуджэнні на глебе беларускага Адраджэння. Яна існуе як беларуская па форме і хрысціянская па змесце. Праз яе здзяйсняецца самая сучасная беларуская палітыка, эканоміка, мова, культура. У ёй адбіваецца найвышэйшы духоўны хрысціянскі змест.

Як сістэма каштоўнасцяў, як аснова здаровага грамадства, увогуле як вобраз цывілізаванага жыцця хрысціянства павінна стаць сутнасцю альтэрнатывы бездухоўнаму аўтарытарна-таталітарнаму рэжыму. Беларускія цэрквы ва ўсім унікальным суіснаванні і ўзаемадапаўненні і ансамблі канфесій маюць усе перадумовы стаць масавым апірышчам нацыянальнага супраціўлення і духоўнага Адраджэння. Так было ў Польшчы, Чэхіі, Сербіі і Прыбалтыцы. Так будзе і ў Беларусі.

Шчаслівыя сем'і, здаровыя дзеці, працаўнікі, якія не п'юць, не крадуць і не хлусяць, паводзяць сябе адказна і прыстойна, — гэта веруючыя. І задача сённяшняга часу — надаць беларускім хрысціянам нацыянальную арыентаванасць, а ўсяму патрыятычнаму руху — хрысціянскую сутнасць.

Перамога такога новага духоўнага фронту можа адбыцца і праз сістэму выбараў (мясцовых, парламенцкіх, наступных прэзідэнцкіх), і праз паражэнне Лукашэнкі на чарговым рэферэндуме, і праз вулічныя выступленні, і праз раптоўны крах улады перад аблічнам паўсюднага супраціўлення накшталт таго, што мела месца ў краінах Усходняй Еўропы. Як менавіта гэта здарыцца, ясна будзе ўжо праз год-паўтара. Галоўнае, што такая сіла істотна зменіць грамадства — і далейшае існаванне дыктатуры ў Беларусі стане немагчымым.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

*Николай БУСЕЛ:*

# "Лукашенко, видимо, до сих пор не может простить мне импичмент"

*Возбуждено уголовное дело в отношении экс-директора акционерного общества "Борисовский завод автотракторного электрооборудования" (БАТЭ) Николая БУСЕЛА. Как сообщила одна из борисовских газет, "ему инкриминируется злоупотребление служебным положением и хищение денежных средств на сумму 16 миллионов 31 тысяча 933 рубля в период с декабря 1991-го по март 2001 года".*

*В марте этого года, когда на заводе начались массовые проверки, Николай Бусел написал заявление об уходе с должности по собственному желанию. О возбуждении уголовного дела узнал из газеты.*



— В принципе, я догадываюсь, что к чему, — говорит Николай Дмитриевич. — На заводе работали мои сын и дочка. Сын был представителем от БАТЭ на МТЗ и на МАЗе. Везде, куда завод поставлял на комплектацию свою продукцию, мы имели своих представителей. Они наблюдали, как идут наши изделия на конвейере, принимали оперативные решения в случае обнаружения каких-либо изъянов. Сын демобилизовался, кажется, в 1995 году. Он закончил Рязанское воздушно-десантное училище, гражданская специальность — инженер по колесной и гусеничной технике. Не вижу ничего крамольного в том, что взял его на работу — он работал по специальности.

Мы комплектовали МТЗ. Договорились поставлять стартеры по пятьдесят долларов за штуку. Но директор МТЗ вдруг заявил, что будет брать их у нас только по тридцать долларов. Такие стартеры из-за рубежа привозили по 90—120 долларов — почему я должен отдавать свои почти бесплатно? Мы прекратили поставки на МТЗ. Сын стал работать только с МАЗом. Однако во время проверок на МАЗе изъяли все акты, которые он подписывал. Даже копий не оставили. Потом приехали ко мне и сказали: мол, на МАЗе ваш сын не работал, значит, зарплату получал незаконно. Хорошо, что сын нашел соответствующие записи в книге рекламаций о том, что акты им действительно подписывались...

**— А дочка?**

— Еще во времена СССР был создан специальный институт, который занимался изучением иностранных автомобилей. Мы тщательно отслеживали все зарубежные новшества и внедряли их у себя. Дочка в совершенстве владеет английским языком. Она переводила всю иностранную литературу. Помогала мне, как никто другой. Когда институт развалился, дочка по-прежнему занималась переводами. Я часто ездил за рубеж, привозил различные аннотации, которые нужно было переводить. Видимо, посчитали, что якобы и она зарплату незаконно получала...

Честно говоря, для меня все это очень неожиданно и неприятно. Как кипятком на голову...

**— Такие чувства испытываете не Вы один. Сегодня многие директора крупных предприятий ждут, когда придут за ними. Поэтому, наверное, лишний раз стараются не высовываться...**

— Меня "ушли" восемь месяцев назад. Теперь я просто пенсионер. Не могу понять, кому я мешаю?..

Когда на завод одна за другой приходили различные комиссии, мне сами проверяющие говорили: дали команду зацепиться за что угодно. Придрались к машине. На заводе был "Джип-санъёнг" 1997 года выпуска. Его нам отдала фирма "Паритет", чтобы рассчитаться с долгами. Заводу такая машина была не нужна, и мы, как и положено по закону, сдали его на комиссию в организацию "Минск-Лада". Независимые эксперты оценили стоимость машины в одиннадцать тысяч долларов. Подержанный джип простоял на витрине около недели, однако им никто не заинтересовался. В Беларуси, как правило, машины покупают не за одиннадцать, а за три—пять тысяч долларов. Мне машина очень нравилась, поэтому я взял денег взаймы и купил ее. Проверяющие предъявили претензии: мол, якобы я дал взятку эксперту, чтобы тот нарочно снизил стоимость машины, поэтому я должен доплатить еще четыре тысячи долларов. Во-первых, у меня таких денег нет. А во-вторых, я в Риге такую машину видел новую — стоит 18 700. В Москве — 14 700. Эксперт, несмотря на все наезды, подтвердил, что машина стоит именно столько, сколько я за нее заплатил.

**— Николай Дмитриевич, Вас можно назвать человеком состоятельным?**

— Я не богат. У меня есть машина, квартира-хрущевка и дача — деревянный домик пять на пять.

**— У директора БАТЭ, если не секрет, была большая зарплата?**

— Последняя, кажется, 430 или 450 тысяч рублей. Средняя зарплата по заводу тогда была около 140. В то же время в энергосистеме мастер-энергетик получал 600—700 тысяч.

В марте БАТЭ был должен 18 миллионов российских рублей своим поставщикам. Сегодня — уже около 48. Но тогда нормально работающий завод вдруг ни с того ни с сего объявили банкротом. И это решение, на мой взгляд, кто-то принял еще до областного суда. Когда в Борисов приехал А.Лукашенко, все стало ясно. Во время его визита на завод кто-то из рабочих сказал: не трогайте нашего директора, дай Бог, чтобы все трудились так, как он. А на встрече с народом около универмага А.Лукашенко заявил: мол, если какой-то директор со мной не согласен, будет так, как с Буселом.

**— Нынешний директор БАТЭ, насколько я знаю, сейчас лежит в больнице. На предприятии предстоят выборы нового руководителя?**

— Вроде бы да. После моего ухода двух заместителей директора назначил лично председатель облисполкома. Хотя он на это не имеет никакого права: замов назначает директор, а директора выбирают на собрании акционеров. По моим сведениям, теперешние заместители директора БАТЭ активно занимаются предпринимательской деятельностью.

Зарплата на заводе упала. Народ, естественно, возмущается...

В последнее время многие меня спрашивают: как здоровье, может, вернетесь? Здоровье в порядке, а на завод уже не вернусь.

**— Будете ждать, когда придут и наденут наручники?**

— Я даже не сомневаюсь, что со мной могут по-хамски обойтись. Несмотря на почтенный возраст и заслуги перед Родиной. Им мало того, что я просто ушел. Надо еще и опозорить. Дай Бог, чтобы все так воровали, как я....

Я же сейчас никому не мешаю. Нигде свое мнение не высказываю. Сижу дома, работаю на даче. Правда, ничего не делать после такой энергичной нагрузки вредно. И сложно. Поэтому консультирую некоторые российские предприятия — надо же на бензин как-то зарабатывать.

В цивилизованной стране мне бы наверняка предложили какую-нибудь посильную работу. Я ведь создал этот завод. В СНГ такие заводы давно поразваливали. БАТЭ захватил все конвейеры автомобильных и тракторных заводов России. Правда, сегодня те предприятия, с которыми мы активно сотрудничали, отказываются работать с БАТЭ. Это нехороший показатель.

Когда меня начали давить проверками, я написал письмо в ОБСЕ с просьбой предоставить политическое убежище. Правда, никуда не уехал, потому что мне пообещали, что, если уйду с должности директора, все прекратится...

В 1937 году забрали моего отца-трудягу. До сих пор неизвестно, где его косточки лежат... Я малолетним узником сидел в концлагере...

Тридцать один год я был директором БАТЭ. Где бы до этого ни работал, обо мне всегда хорошо отзывались. Заслуженный машиностроитель, трижды лауреат премии, в том числе и одной белорусской. И это все перечеркивается... При моем-то опыте! При моих-то знаниях! И вдруг — преступник!..

Я был депутатом Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва. Как и все нормальные люди, поставил свою подпись под заявлением об импичменте президенту. Этого, видимо, Лукашенко мне не может простить до сих пор.

### Из прессы

*"...БАТЭ, как и тысячи других белорусских предприятий, ставших жертвой нынешней экономической политики, оказался без оборотных средств. Львиную долю в расчетах с российскими поставщиками металла до недавнего времени занимал бартер (правда, сейчас финансовая ситуация начинает понемногу выправляться). Из-за нехватки денег завод не смог вовремя рассчитаться с партнером. Кредитор настаивал, а генеральный директор БАТЭ Николай Бусел, посчитав, что его требования ущемляют интересы предприятия, жестко отстаивал свою позицию. В результате конфликта российская компания инициировала дело об экономической несостоятельности борисовского предприятия. Ситуация для России банальная... Для нас — пока новая, хотя скоро и в Беларуси должна стать рутинной. По информации Минстата, потенциальными банкротами по итогам I квартала являются 42% белорусских предприятий. Специалисты утверждают, что сегодня есть все основания для возбуждения в хозяйственных судах дел о банкротстве свыше 100 белорусских предприятий. Почему же такой переполох? Потому что это — БАТЭ. В последние годы при анализе ситуации на этом предприятии политические оценки явно доминировали. В связи с чем у многих даже возникло подозрение, что скандал спровоцирован специально.*

*В бывшем Союзе БАТЭ был центром по проектированию, конструированию и изготовлению стартеров малого, среднего и большого класса. Хотя производством аналогичного оборудования в СНГ занимаются 23 завода, БАТЭ считают лидером, поскольку он является специализированным производителем. Конкуренты тоже отмечают, что за последние годы предприятие не только не утратило своих позиций, а даже упрочило их (на одном из собраний акционеров об этом говорил представитель АвтоВАЗа). Сегодня на многих предприятиях к проверяющим привыкли, но редко кому довелось пережить за эти годы такое обилие проверок. Сразу после избрания А. Лукашенко президентом предприятие было проверено на предмет коррупции. Несколько лет назад там побывал ОМОН. Тогда арестовали 5 специалистов (спустя год их отпустили на свободу за бездоказательностью обвинений). Ни для кого не было секретом, что таким вниманием БАТЭ "обязано" Н.Буселу, его публичной поддержке во время президентской кампании кандидатуры В. Кебича. Позже, будучи депутатом Верховного Совета 13-го созыва, Н.Бусел поставил свою подпись под заявлением об импичменте президенту. Нужен был предлог, который позволил бы вернуть БАТЭ под контроль государства, и контролеры искали "грехи", чтобы на их сумму увеличить госпакет. После неоднократных проверок стоимость предприятия стала астрономической, и эту затею отбросили. Чтобы справиться с Н.Буселом, ввели "золотую акцию", но и это не помогло: акционеры проголосовали за прежнего директора.*

*...21 марта Николай Бусел добровольно подал заявление об отставке. "Мне было ясно, что прокурорская проверка проводится с заданной целью — найти и завести уголовное дело... Меня предупредили, что на БАТЭ будет второй вариант "Рассвета", — поясняет Н. Бусел".*

**Василий ШЛЫНДИКОВ, президент ассоциации содействия экономическому развитию:**

— Сомнительное хищение на сумму более 16 миллионов рублей за десять лет — это примерно десять тысяч долларов. В России столько в месяц получают директора некоторых заводов! Получается, "несчастный" Бусел имел дополнительно к зарплате по тысяче долларов в год. Думаю, в любом нормальном государстве постыдились бы даже говорить об этом...

Я знал Бусела по Верховному Совету 13-го созыва. Он придерживался коммунистических взглядов. Однако эти взгляды не помешали ему подписаться под импичментом президенту. Он всегда отстаивал свою позицию. Создал завод. Этот завод был его жизнью... Те, кто сегодня его обвиняет, ничего не создали. И не создадут. Не способны. Они судят о других по себе. Исходя из психологии мелких жуликов. Думают, если сами воруют, значит, и все остальные непременно должны воровать. На мой взгляд, Бусел — не из тех, кто способен на воровство. Как, собственно, и директор "Атланта" Леонид Калугин.

Хочу пожелать Николаю Дмитриевичу отстаивать свое честное имя так же рьяно, как и свои жизненные принципы.

**Марина КОКТЫШ.**

# Мастак усіх вялікіх князёў



Анатоль Крывенка ў хатняй абстаноўцы.

Мастак Анатоль Крывенка ахвяраваў для музея ў Старых Дарогах больш за 200 сваіх твораў. Партрэты вялікіх князёў ВКЛ — ад Рагвалода да Станіслава Панятоўскага, члены БНР, дзеячы нацыянальнага вызвольнага руху, сучасныя вучоныя, грамадскія дзеячы — унікальны збор!

Нарадзіўся Анатоль у 1942 годзе ў тагачасным Сталінградзе. Бацька — Дзмітрый, паходжаннем з сялян, ваеннаслужачы, родам з Палтаўшчыны. Маці — Вольга, родам з Камянец-Падольска, са старажытнага нямецкага роду Нольдэ. Яе продак служыў ад'ютантам у генерала Эдуарда Татлебена, героя Севастопальскай абароны 1854—1855 гадоў.

Па абавязку службы бацькі сям'і часта прыходзілася мяняць месца жыхарства. У асноўным гэта Прыбалтыка: Вентспілс, Любава, Рыга, Калінінград, Вільнюс. З першага па трэці клас Анатоль вучыўся ў Калінінградзе, далей — у Вільнюсе. Тут жа здзейсніў сваю мару навучыцца прафесійна маляваць — скончыў мастацкую школу. Тут спаткаў сваю спадарожніцу жыцця. Яна — Жанна і ёсць яго муза. Першы партрэт — яе партрэт. Каб даглядзець яе хворых бацькоў, прыйшлося ў 1968 годзе пераехаць да іх у Мінск. Хоць прафесійным мастаком тут не стаў, працуе вучэбным майстрам мастацкага друку пры кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. І малюе, малюе гісторыю Беларусі.

Дабрачыннасць Крывенкі мяне здзівіла яшчэ больш, калі я даведаўся, што яго штомесячны заробак складае каля 90 тысяч беларускіх рублёў.

**Мікола ЛАВІЦКІ.**



*Творы А.Крывенкі ў Старадарожскім музеі.*

Фота І.ЛОЙКІ.

КОЛОНКА ЮРИСТА



**Олег ВОЛЧЕК, автор рубрики, ждет ваших вопросов**

## Работа в выходной

*Раньше работа в выходные дни оплачивалась в двойном размере, сейчас — нет. Правомерны ли действия нанимателя.*

**Н.А.Лепесевская, жительница Гомельской обл.**

В данном случае действия нанимателя неправомерны, т.к., согласно ст. 69 Трудового кодекса РБ, каждый час работы в сверхурочное время оплачивается:

1) работникам со сдельной оплатой труда — не ниже двойных сдельных расценок;

2) работникам с повременной оплатой труда, а также получающим должностные оклады, — не ниже двойных часовых ставок (окладов).

По договоренности с нанимателем работнику за работу в сверхурочное время может предоставляться другой день отдыха.

Работа в государственные праздники, праздничные и выходные дни оплачивается не ниже чем в двойном размере по правилам части первой настоящей статьи.

За работу в сверхурочное время, в государственные праздники, праздничные и выходные дни премии начисляются на заработок по одинарным сдельным расценкам или на одинарную тарифную ставку.

## Опека над ребенком

*У меня умерла дочь, мой внук остался проживать у зятя, который не является ему родным отцом. Как поступить в данной ситуации?*

**Т.И.Сушкевич, жительница г. Жодино.**

Согласно ч. 3 п. 22 Постановления Пленума Верховного Суда РБ "О практике применения судами законодательства при разрешении споров, связанных с воспитанием детей", № 10 от 16.12.1994 г. передача ребенка на воспитание родственникам и другим лицам допускается, если они назначены его опекуном или попечителем.

В вашем случае выходом из сложившейся ситуации является установление опеки над вашим внуком. По действующему законодательству РБ, опека и попечительство устанавливаются для воспитания несовершеннолетних детей, которые вследствие смерти родителей, лишения их родительских прав, болезни или по другим причинам остались без родительского попечения, а также для защиты личных и имущественных прав и интересов этих детей (ч. 1 ст. 142 Кодекса РБ о браке и семье).

## Ремонт дома

*Я живу в доме на 8-м этаже, у меня протекают стены на кухне и в двух комнатах. Сначала заделали, но не полностью. И я отказалась подписать акт. Рабочий сказал, что распишется сам. Обращаюсь в ЖЭС, но мне отвечают, что денег на ремонт больше нет. Как мне быть?*

**И.П.Васюк, жительница Минска.**

Согласно статье 50 Жилищного Кодекса Республики Беларусь, наниматель жилых помещений государственного жилищного фонда обязан своевременно производить капитальный и текущий ремонт вспомогательных помещений, конструктивных элементов и инженерных систем жилых домов. Он также обязан устранять неисправности в квартирах за свой счет, если эти дефекты появились вследствие неисправности конструктивных элементов или инженерных систем жилого дома; возмещать гражданам и юридическим лицам независимо от форм собственности причиненный по его вине ущерб.

Кроме того, согласно статье 9 Жилищного Кодекса Республики Беларусь, вы имеете право обратиться с судебные органы с иском к ЖЭС в защиту своих интересов.

## Лишение родительских прав

*Может ли жена в бракоразводном процессе заявить о лишении родительских прав в отношении меня, потому что я являюсь безработным более 6 месяцев. Она мне говорит, что ей не нужны алименты и будет просить о лишении родительских прав.*

**В.А.Паленкович, житель Могилева.**

Согласно статье 80 Кодекса о браке и семье Республики Беларусь, родители или один из них могут быть лишены родительских прав в отношении несовершеннолетних детей, если будет установлено, что они уклоняются от выполнения своих обязанностей по воспитанию детей или злоупотребляют своими родительскими правами, жестоко обращаются с детьми, ведут аморальный образ жизни, что оказывает вредное воздействие на детей, а также, если родители являются хроническими алкоголиками или наркоманами или его родители подали письменное заявление об отказе от ребенка.

Лишение родительских прав производится только в судебном порядке. Дела о лишении родительских прав рассматриваются с обязательным участием прокурора и представителя органа опеки и попечительства.

Только тот факт, что вы в настоящее время являетесь безработным, не может быть причиной для лишения вас родительских прав.

